


DISTRICTUS

# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 9 (34) ВЕРАСЕНЬ 2004 г.

## ВЕСТКІ

У мінулым навучальным годзе праводзіўся абласны конкурс “Школа беларускамоўная мая”, дзе лаўрэатамі сталі дзве школы раёна: Мількаўская школа-сад і Барунская базавая школа. На конкурс былі прадстаўлены матэрыялы, якія асвятляюць дзейнасць школ па адраджэнню гісторыка-культурнай і моўнай спадчыны.



Дыпломам Нацыянальнай канферэнцыі-семінара школьных прац па краязнаўству адзначана праца вучня Дрысвяцкай школы Юрыя Мартынкіна “Нямыя сведкі першай сусветнай вайны”. Праца, якая рыхтавалася пад кіраўніцтвам настаўніцы гісторыі Э.Л.Шавола, прысвечана ўмацаванням вайны ў наваколлі вёскі Дрысвяты, дзе ў 1915–1918 гадах стаяла лінія фронту паміж расійскімі і нямецкімі войскамі. Даследванні ўмацаванняў гэтага перыяду будуць прадоўжаны.



Сябры Браслаўскага клуба аматараў жывой археалогіі былі ўдзельнікамі фестываля ў Біскупіне, непадалёку ад польскага горада Познань. Фестываль праходзіў з 18 па 26 верасня. Фестываль у Біскупіне лічыцца адным з самых вялікіх у Еўропе. Яго наведвае каля 100 тысяч чалавек. У гэтым годзе фестываль праходзіў пад дэвізам “Кельты – народ еўрапейскі”. Значная частка мерапрыемстваў фестываля была звязана з дэманстрацыяй матэрыяльнай і духоўнай культуры кельтаў. У комплексе “Крывіцкая вёска” наведвальнікі маглі пазнаёміцца з заняткамі і традыцыямі крывічоў XI – XIII стст.

***Верасень – месяц, калі ў навучальных установах краіны пачынаюцца заняткі. 1 верасня – дзень ведаў. У гэтым нумары мы прапануем увазе чытача шэраг матэрыялаў, звязаных з гісторыяй адукацыі Браслаўшчыны.***

**Кастусь Шыдлоўскі**



# З гісторыі адукацыі ў Браславе XIX стагоддзя

XIX стагоддзе - складаны і супярэчлівы перыяд у гісторыі Браслава. Знішчанае пажарам падчас паўстання 1794 года мястэчка аднаўлялася вельмі марудна. Жыхары пакідалі Браслаў, шукаючы лепшай долі ў іншых мясцінах. Колішні горад страціў ролю павятовага цэнтра, а яго жыхары прывілей свабодных грамадзян (браслаўцы сталі лічыцца сялянамі дзяржаўнага маёнтка). У 40-50-я гады ў Браслаў прыехала шмат перасяленцаў яўрэяў, іх улады адносілі да катэгорыі “староннiх асобаў”. У 1859 г. ў мястэчку налічвалася 14 сем’яў дзяржаўных сялян і 82 сям’і “староннiх асобаў”.

Яўрэйскага грамада Браслава сама арганізоўвала навучанне дзяцей і ўтрымлівала школу. Адукацыя для хрысціянскага насельніцтва трымалася храмаў. Пры касцёле дзейнічала парафіяльная школа, у якой даваліся самыя пачаткі ведаў. Але істотнага ўплыву на насельніцтва школа не аказвала. У 1804 г. яе наведвалі 3 вучні, столькі ж і ў 1805 г. У 1828 г. не зафіксавана ніводнага вучня. Нават для маленькага мястэчка лічбы невялікія, парафія ж налічвала некалькі тысяч вернікаў. Існаванне навучання пры ўніяцкай (пазней праваслаўнай) царкве ў першай палове XIX ст. не адзначана. Верагодней за ўсё, святар ці дзяк вучылі выбраных дзяцей па ўласнай ініцыятыве. Увогуле, у першай палове XIX ст. навучанне дзяцей у Браславе было праблемай бацькоў. Бацькі, калі былі пісьменныя, самі вучылі сваіх дзяцей ці прасілі аб гэтым іншых. Існавалі нелегальныя польскія адукацыйныя пляцоўкі, якія праследаваліся царскімі ўладамі.

У другой палове XIX ст. Браслаў стаў цэнтрам воласці. Браслаўская воласць аб’ядноўвала каля 110 паселішчаў з насельніцтвам звыш 5 тыс. чалавек. У мястэчку размясцілася валаснос праўленне, суд ніжэйшай інстанцыі, пазней сталі адчыняцца некаторыя іншыя ўстановы. Да такіх адносіліся дзве навучальныя ўстановы. З 1864 г. ў Браславе пачалі функцыяніраваць два мужчынскія вучылішчы. Чаму паўсталі дзве навучальныя ўстановы? Справа ў тым, што на той час насельніцтва воласці падзялялася на казённых ці дзяржаўных сялян, а таксама на сялян-уласнікаў, вызваленых ад прыгону і невялікай колькасці мяшчан. Міністэрства дзяржаўнай маёмасці для дзяцей дзяржаўных сялян адчыніла сельскае вучылішча, а народнае вучылішча Міністэрства народнай асветы прымала дзяцей сялян уласнікаў. Вучылішчы давалі толькі пачатковыя веды. Прымаліся толькі хлопчыкі. Мова навучання – руская. Увогуле, праграмы вучылішча былі складзены ў адпаведнасці з русіфікатарскай палітыкай, якая праводзілася на землях Беларусі царскім урадам. У Браслаў прыехалі прафесійныя педагогі, амаль выключна выхадцы з цэнтральных губерняў Расіі (Мікалай Някрасаў з Цвярской губерні, Павел Пакроўскі з

Яраслаўскай, Ільінскі з Валагодчыны). Яны адразу сутыкнуліся з недаверам з боку мясцовага насельніцтва. Увогуле, напачатку жыхары Браслава і наваколля вельмі насцярожана паставіліся да дзейнасці вучылішчаў.

Цікавыя акалічнасці дзейнасці сельскага і народнага вучылішчаў можна даведацца з некалькіх спраў Каўнаскага акруговага архіва. Справы ўтрымліваюць лісты і прашэнні браслаўскіх настаўнікаў, якія яны пісалі да начальства ў 60-я гады XIX ст.

Шмат скаргаў на нежаданне бацькоў аддаваць дзяцей у вучылішчы. Настаўнік сельскага вучылішча Сяргей Платонаў 23 сакавіка 1865 г. пісаў акруговаму інспектару: *"Приезжал в Браслов господин исправник, я ему объявил, что крестьяне волостного правления, несмотря на то, что училище давно уже готово, не желают отдавать детей своих... Когда старшина начал понукать крестьян к открытию учения, они выставляли разные причины и наконец до того вооружились, что один из них взял старшину за грудь с такими словами: "Для чего мы будем отдавать детей в училище. Разве для того, чтобы ты их записал в солдаты и обратил в поганую веру"*.

Настаўнік народнага вучылішча Павел Кушын скардзіўся на непрыязныя адносіны валаснога начальства (ліст у дырэкцыю народных вучылішчаў ад 1 студзеня 1866 г.): *"Старшина лавируя как бы не отдать в школу своего сына и детей крестьян более зажиточных,. ещё доселе не устроил парт необходимых при увеличении учеников. Писарь, католик, всегда при выходе мною из правления плюёт вслед мне – знак пренебрежения. Известно, что грамотный писарь при неграмотном старшине глава всему... Нужно вручить писарскую должность человеку русскому или хотя и католику но более благонадёжному. Словом настоящего порядка в Брасловском народном училище нет и быть не может до тех пор, пока не будет писарь русского происхождения."*



Рапарт настаўніка Браслаўскага сельскага вучылішча С.Платонава. 1865 г.

Той жа П.Кушын праз месяц скардзіцца, што вучняў становіцца ўсё меней: *"ученики по самоволию назначают для себя на отдых недели и дни. На вопрос – почему не являлся в школу неделю? Слышится всегда ответ такого рода "хлеба нет". В самом деле ничего не стоит волости прокормить 14 и более учеников... А их при огромном составе Браславской волости наберётся до 200."*

Настаўнік Браслаўскага сельскага вучылішча С.Чулкоў у 1866 г. дакладваў начальству, што у школу запісаўся 51 хлопчык, але наведваюць заняткі далёка не ўсе. У той час як у суседняй вёсцы Краснасельцы настаўнік без праблем збірае вялізную колькасць дзяцей і вучыць іх польскай граматыцы.

Як вынікае з дакументаў, рэальна наведвалі кожнае з вучылішчаў у 60-я гг. да 20-ці вучняў. Афіцыйныя звесткі, якія друкаваліся ў розных даведніках, давалі лепшую карціну. Паводле афіцыйных звестак у Браслаўскім сельскім вучылішчы меўся 51 вучань (35 католікаў, 15 праваслаўных, 8 стараавераў). Гэта лічба адлюстроўвае тых, хто запісаўся.

Заняткі адбываліся ў прыстасаваных памяшканнях, часта вельмі дрэнна забяспечаных і адрамантаваных. Сяргей Платонаў, сельскае вучылішча, 1865 г.: *"О благосостоянии моего училища не много могу сказать хорошего. Комната всё та же тесная."* Павел Кушын, народнае вучылішча, 1866 г.: *"прошу заставить волостное правление распорядиться о прибавлении хотя бы по одному ученику в неделю, а иначе оно совершенно забудет о существовании школы и не догадается через целую зиму починить даже училищных окон, в которые более двух месяцев ветер со двора врывается, а потом преспокойно разгуливает по училищу."*

У браслаўскіх праваслаўных настаўнікаў была яшчэ адна праблема – адносіны з каталіцкімі святарамі. Большасць вучняў складалі католікі. Закон Божы паводле праграм трэба было выкладаць па-руску, а святары ад гэтага адмаўляліся. Думка наконт гэтага С. Платонава (1865 г): *"Преподавать закон божий по-русски весьма возможно. Все мои ученики говорят по-русски очень свободно. Дело преподавания закона божия замедляется только потому, что ксёндз не имеет предписания. Едва ли он будет преподавать по-русски, имея для этого все верные факты. Это грубый и закостенелый фанатик. Он весьма тонко противодействует целям правительства"*.

Настаўнік народнага вучылішча П.Кушын 30 чэрвеня 1865 г. піша асобнае прадстаўленне: *"Ксёндз окончательно отказался от преподавания закона божия, ударяя на неразрешение ему епархиального начальства преподавать закон божий на русском языке. Что делать? Имею честь покорнейше просить у Вашего Высокородия дозволить мне занятия обучением Закона Божия"*. З ліста настаўніка сельскага вучылішча П.Троіцкага ў дырэкцыю народных вучылішчаў ад 14 кастрычніка 1865 г.: *"Преподавание закона божия во всех учебных заведениях обыкновенно стоит на первом месте... У нас, например, в Браслове – два училища, в обоих воспитывается 90 мальчиков, большая часть вероисповедания римско-католического. Все они поступают в училище решительно без всяких религиозных познаний, знают только, что есть Бог... Школа должна дать всё... Ксёндз же, не смотря на то что его прямая обязанность сообщать своим пасомым религиозные истины, отказывается от преподавания закона божия, отказывается прежде всего незнанием русского языка...".*

*Имею честь покорнейше просить у Вашего Высокородия дозволить мне занятия обучением Закона Божия".*

Настаўнікі ў Браслаўскіх вучылішчах змяняліся вельмі

часта – ім цяжка было прыжыцца сярод мясцовага насельніцтва, не прыцягвала і маленькае занядбанае мястэчка, дзе не проста было ўладкаваць свой побыт. З прашэння настаўніка сельскага вучылішча Сяргея Платонава (1865 г.): *"Доведённый до последней крайности бедственным моим положением я осмеливаюсь прибегнуть под единственное покровительство Вашего Высокородия. Бедственная жизнь моя в местечке Браслове со дня моего приезда по настоящее время всё идёт тем же обычным нерадостным для меня путём... Живу можно сказать, не в комнате, не на дворе; за версту от училища, в убогой крестьянской хижине, без печи и с разбитыми окнами, да и этого помещения скоро не будет. На наем удобной квартиры не могу надеятся... Сельский писарь получает 225 рублей жалованья, хлеб, пользуется готовою квартирою, я же при полутораста рублёвом жалованьи должен иметь свою квартиру"*.

Згодна штатнага раскладу ў двух вучылішчах працавалі чатыры настаўнікі. Часам паміж імі здараліся канфлікты. Настаўнік народнага вучылішча Павел Куцын скардзіўся 24 студзеня 1866 г. на свайго калегу з сельскага вучылішча ў дырэкцыю народных вучылішчаў: *"Живя на одной квартире со мною он всегда по получении жалованья, является в пьяном виде... Первым делом его ругаться ни с того ни с сего и при том самым беспощадным образом, при этом всячески старается возвать меня на оправдание или на защиту себя для того, чтобы к чему либо придраться и найти случай или подраться со мною... На днях он уже собрался совсем разломать свой шкаф..."*

Існаванне ў Браславе двух навучальных устаноў, кожная з якіх мела вельмі слабую базу і невялікую колькасць вучняў, адразу выглядала недарэчным. Валаснос праўленне таму імкнулася паставіць пытанне аб аб'яднанні двух вучылішчаў. 19 красавіка 1868 г. валасны сход склаў просьбу да вышэйшых інстанцый па гэтаму пытанню. У гэтым жа годзе жыхары валасці склалі просьбу аб ліквідацыі сельскага вучылішча і далучэнні яго да народнага. Захады сялян былі зразумелымі, бо на ўтрыманне вучылішчаў сродкі і хлеб збіраўся ў валасці. Аднак чыноўнікі не згаджаліся змяншаць колькасць вучылішчаў, каб не псаваць агульную статыстыку.

1 лістапада 1870 г. валасны сход зноў вяртаецца да гэтага пытання і пастанаўляе прасіць адкрыць замест сельскага мужчынскага вучылішча жаночае. На гэты раз справа зрушылася: 14 лютага 1871 г. у Браславе пачало працаваць жаночае вучылішча. Яго першай настаўніцай стала Людміла Сібіракова. Аднак і дзяўчынак сяляне неахвотна аддавалі ў школы. У 1873 г. Л.Сібіракова пісала: *"Находясь третий год на должности учительницы, я убедилась, что одно из самых неблагоприятных обстоятельств для вверенного мне училища это то, что крестьяне неохотно отдают в училище девушек, хотя со стороны самих девушек высказывалась большая охота к посещению училища"*. Пад уплывам настаўніцы валасны сход пастанавіў, што 30 найбольш заможныя сем'і павінны аддаваць дзяўчынак на вучобу. За кожны прапушчаны дзень заняткаў сям'я павінна была плаціць штраф 10 кап. серабром. Аднак рашэнне гэта не выконвалася.

**Гэтыя словы напісаў у 1865 г. на занятках у Браслаўскім сельскім вучылішчы вучань Мікалай Зямец**

У 70-я гады XIX ст. праца вучылішчаў паступова наладзілася. У 1874 г. было прынята рашэнне валаснога сходу аб узвядзенні спецыяльных будынкаў для мужчынскага і жаночага вучылішчаў. Стабілізавалася колькасць вучняў. 18 лістапада 1874 г. аддзяленне мужчынскага вучылішча адкрылася ў в.Ахрэмаўцы. Выкладаць тут стаў Мікалай Сіротка, мясцовы жыхар, які да таго скончыў Браслаўскае вучылішча. У аддзяленні займаліся 14 хлопчыкаў. Яшчэ адно аддзяленне стала працаваць у в.Дукелі (настаўнік Фёдар Сапель, таксама выпускнік Браслаўскага вучылішча). У снежні 1875 г. адчынены аддзяленні ў Азяраўцах і Разецы. Вучням не трэба было дабірацца некалькі кіламетраў да Браслава. А ў самім мястэчку з павелічэннем колькасці жы-хароў узнікла ідэя адкрыць гарадское вучылішча, але да рэалізацыі яе справа дайшла ў XX ст., перад I-ай сусветнай вайной.

*Славутыя землякі*

# САВІЧ-ЗАБЛОЦКІ

Аматарам беларускага пісьменства вядома прозвішча паэта, празаіка, публіцыста XIX ст. Вайніслава Савіча-Заблоцкага, які карыстаўся псеўданімамі: Грамадзянін з Белай Русі, Граф Суліма, Павел Завіша і інш. Пісаў на беларускай, польскай, французскай, нямецкай мовах. Вучыўся ва ўніверсітэтах у Празе, Лейпцыгу, Страсбургу. Літаратурнай дзейнасцю займаўся ў Санкт-Пецярбургу, Варшаве, Кракаве, Львове, Познані. Марыў вывесці беларускую мову, якой у XIX ст. карысталіся простыя людзі, з кутка на шырокі прастор. Пра В.Савіча-Заблоцкага можна прачытаць у розных даведніках і энцыклапедыях ("Мысліцелі і асветнікі Беларусі" Мінск 1995; "Беларускія пісьменнікі". т.5. Мінск 1995 і інш.). Усюды ўказваецца, што нарадзіўся пісьменнік у маёнтку Панчаны Дзісенскага пав. Віленскай губ. і, што гэта сучасны Мёрскі раён. Матэрыял пра В.Савіча-Заблоцкага ўключаны ў кнігу "Памяць" Мёрскага раёна. Аднак маёнтак Панчаны знаходзіўся непадалёку ад Друі, на тэрыторыі, якая адносіцца да сучаснага Браслаўскага раёна. І цяпер непадалёк ад р.Друйка існуе невялікая вёсачка Панчаны, магчыма, нават захаваліся сляды былога маёнтка (маёнтак абазначаўся на даваенных картах Браслаўшчыны). Такім чынам, пісьменнік XIX ст. В.Савіч-Заблоцкі адносіцца да шэрагу славутых землякоў Браслаўшчыны.

Творы пісьменніка да нядаўняга часу былі маладаступны шырокаму колу чытачоў. Часопіс "Полымя" у першых нумарах за гэты год апублікаваў аповесць В.Савіча-Заблоцкага "Арлалёты і падкавойны, або полацкая шляхта". Гэты твор, напісаны па-польску, выявіла ў Польшчы і падрыхтавала да друку даследчыца Жана Некрашэвіч-Кароткая.

**Валерый Каралёў**

# АДУКАЦЫЯ ПАДЧАС НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКАЙ АКУПАЦЫІ

Пасля акупацыі тэрыторыі Беларусі захопнікамі разам з фарміраваннем акупацыйнай улады пачалося стварэнне і сістэмы адукацыі. Зразумела, што ў рэчышчы палітыкі нацыстаў заваявання "жыццёвай прасторы" і ператварэння беларускага насельніцтва ў лепшым выпадку ў дармавую працоўную сілу мела тая адукацыя вельмі абмежаваны характар і перш за ўсё павінна была выхоўваць моладзь у духу адданасці гітлераўскай Германіі і пакорнасці "новаму парадку", што тут устанаўліваўся.

Ужо ў верасні 1941 г. на тэрыторыі генеральнага камісарыята Беларусі (за выключэннем тэрыторый, што падпадалі пад уладу вайсковага кіраўніцтва) было ўведзена абавязковае навучанне дзяцей ад 7 да 14 гадоў, за выключэннем дзяцей-яўрэяў. У чэрвені 1942 года ўжо дзейнічала 3,5 тысяч пачатковых школ з 346 тысячамі навучэнцаў і ў вельмі абмежаваных рамках была дазволена сярэдняя адукацыя. Беларускія нацыянальныя дзеячы прыкладалі намаганні, каб выкарыстоўваючы гэтую магчымасць выхоўваць моладзь у духу патрыятызму да Беларусі, а не пакорлівасці акупантам, даваць сапраўдныя веды па гісторыі Бацькаўшчыны, апавядаць аб яе слаўным мінулым, выдатных дзеячах і асобах. Ва ўсялякім выпадку ідэалагічныя ўстаноўкі акупантаў маглі выконвацца ў тых абставінах выключна фармальна дзеля захавання адукацыйнай сістэмы. У нашай мясцовасці ў першыя часы акупацыі школы дзейнічалі ва ўсіх мястэчках і шмат якіх вёсках.

Восенню 1941-га пачала дзейнасць пачатковая школа ў Язне, кіраўніцтва якой працягваў ажыццяўляць дырэктар часоў "першых саветаў" Ігнат Мятла – вялікі патрыёт Беларусі, чалавек, які меў выдатныя арганізатарскія здольнасці, высокакультурны і рознабакова адукаваны – сапраўдны інтэлігент. Школа спыніла дзейнасць зімой 1943-1944 гадоў, калі партызаны спалілі будынак школы, а дырэктару і настаўнікам забаранілі дзейнасць.

Захавалася некалькі дакументаў аб дзейнасці ў 1942 г. пачатковай школы ў Ваўкоўшчыне, якія даюць магчымасць уявіць умовы і ўзровень адукацыі ў той час. Перш за ўсё – гэта копія спісу інвентару школы, састаўленага 18 лістапада 1941 г. камісіяй у складзе Старшыні Перабродскай воласці Юзафа Дварэцкага, кіраўніка школы Стэфаніі Рачкоўскай, настаўніцы Зінаіды Дварэцкай і сакратара воласці Яна Мілашэвіча на падставе распараджэння школьнага інспектара ў Браславе. Згодна спіса, школа мела будынак, у якім тры пакоі адводзіліся пад класы, адзін – пад калідор і памяшканне для распранання (былы дом заможнага гаспадара з Гарадзішча Вайцяховіча, які разам з сям'ёй быў вывезены падчас "першых саветаў" у Сібір). З рухомай маёмасці было 35 партаў, дзве школьныя дошкі, шафа, дзесяць рам для партрэтаў, дзве карты, столік пад умывальню. Дадаткова старшынёй воласці былі выдадзены два сталы, два крэслы, дзве школьныя дошкі, глобус, фізічная карта, бак для вады і ўмывальнік.

Захаваліся і два рахункі на атрыманне кіраўніцай школы ў Браслаўскай павятовай кааперацыі "Гаспадар" школьных прылад 14 кастрычніка і 4 снежня 1941 года. Па іх для школы было атрымана 160 сшыткаў па 50 капеек, 100 алоўкаў таго ж кошту і паўлітра чарніла. Згодна чарнавіка запіскі кіраўніцы школы ў Браслаўскі павятовы аддзел асветы, што захаваўся, вядома, што "заняткі ў Ваўкаўшчынскай школе пачаліся 3 лістапада 1941 г. З гэтай даты пачалі працу Стэфанія Рачкоўская, Зінаіда Дварэцкая. Заняткі да 10 лістапада праводзіліся пры няпоўным размеркаванні гадзін школьнага плана па прычыне недахопу дроў для школы і малога ліку дзяцей. Да гэтага часу наведвалі Ваўкоўшчынскую школу 43 хлопчыкі і дзяўчынкі ў наступным складзе: 1-ы клас – 11 чалавек; 2-і клас – 17, 3-і – 10, 4-ы – 5. А па спісах, узятых з метрык, у першы клас павінна хадзіць 30, у другі – 38, у трэці – 22, у чацвёрты – 9 чалавек. Школа можа змясціць усіх вучняў па ўказаным спісе. Заняткі праводзяцца адначасова ў двух класах у адну змену. Рамонт школы зроблены. Печы пабелены. Гэту работу выканаў школьны вартаўнік. Воласць яшчэ не аплаціла яе."



**Настаўніцкія курсы ў Браславе. 1942 г.**

А вось які быў расклад прадметаў па класах і гадзінах у тыдзень. У першым і другім класах 12 гадзін у тыдзень займаліся беларускай мовай, 8 – арыфметыкай, па адной гадзіне – спевамі, маляваннем, гімнастыкай і ручной працай. У 3 і 4 класах: па 5 гадзін займаліся нямецкай і беларускай мовамі, 6 – арыфметыкай, па адной гадзіне – гімнастыкай, маляваннем і ручной працай. Аб умовах вучобы ў той час расказаў адзін з былых вучняў гэтай школы Пётр Мікалаевіч Смулькевіч: "Зразумела, што было вельмі цяжка. Не хапала часта нават самага неабходнага, але цяга да ведаў перамагала. Шмат намаганняў, каб даць веды сялянскім дзецям прыкладалі нашы настаўнікі. Па ініцыятыве Стэфаніі Іванаўны, тагачаснай кіраўніцы школы, нават былі надрукаваны ў Браславе некаторыя вучэбныя дапаможнікі. Вясной 1943 года адбыўся першы выпуск нашай школы і вучні, што скончылі яе, атрымалі пасведчанні. Але восенню 1943 г. быў разгромлены будынак школы партызанамі брыгады імя Жукава, паколькі перад гэтым у ім на нейкі час размясцілася нямецкае вайсковае падраздзяленне. Бацькі навучэнцаў адразу прапанавалі адрамантаваць будынак, але партызаны перадалі загад настаўніцам: спыніць дзейнасць школы".

Бліжэйшая да Ваўкаўшчынскай школа знаходзілася ў Дварышчы, а настаўнічала ў ёй Ганна Квяткоўская. З выкарыстоўваемых падручнікаў захаваліся выдадзеныя падчас акупацыі "Буквар" і "Кніжка вучыцца чытаць і пісаць лацінаю" з укладання Я.Станкевіча, якая выйшла ў 1943 г. ў выдавецтве падручнікаў і літаратуры для моладзі ў Менску. Варта дадаць, што ў гэтым выдавецтве таксама былі выдадзены "Зборнік арыфметычных задач і прыкладаў для 1 і 2 класаў", "Беларускі лемантар" П.Кісяля, шостае выданне "Граматыкі" Б.Тарашкевіча, брашура "Што трэба ведаць кожнаму беларусу" нашага вядомага земляка Вацлава Ластоўскага, зборнік сцэнічных твораў, у які ўвайшлі: "Пінская шляхта" В. Дуніна-Марцінкевіча, "Модны шляхцюк", "Чорт-баба", "Збянтэжаны Саўка", "Міхалка" М.Лясуна, зборнікі беларускіх калядных і велікодных песень. Зразумела, што ўсе гэтыя кніжкі выкарыстоўваліся настаўнікамі беларускіх школ, але было гэтай літаратуры вельмі мала.

Аднак не толькі афіцыйна дазволеныя акупацыйнымі ўладамі беларускія школы дзейнічалі ў нашай мясцовасці. Так, згодна выдадзенай у Польшчы кнізе "Канспіратыўная дзейнасць каталіцкага святарства на Віленшчыне ў гадах 1939–1944" у Іказні падпольна выкладалі прадметы польскай мовы, гісторыі і рэлігіі ксяндзы Уладыслаў Мацькавяк і Станіслаў Пыртэк. Ёсць усе падставы меркаваць, што ў нейкай ступені падпольным навучаннем, зразумела у польскім патрыятычным духу, займаліся і ксяндзы іншых парафій. Прыкладна такім быў стан адукацыі ў тыя трагічныя гады ў нашай мясцовасці.

# Пра некаторыя абставіны адукацыі ў Браславе і акрузе ў 1942 г.
## (па матэрыялах Нацыянальнага архіва Беларусі)

**"Што адбываецца ў Браславе?"** (Артыкул "Мінскай газеты" ад 06.09.1942 г.) 24 і 25 жніўня 1942 года адбылася раённая канферэнцыя настаўнікаў з удзелам маладых настаўнікаў, якія закончылі настаўніцкія курсы ў Браславе. Трэба прызнаць, што настаўніцкія курсы , а таксама і канферэнцыя праходзілі не зусім у духу развіцця беларускай нацыянальнай працы. Прычынай гэтага было тое, што тутэйшае вышэйшае кіраўніцтва аказвае дрэнны ўплыў і не карыстаецца аўтарытэтам у беларускіх нацыянальных колах. Дастаткова ў якасці прыкладу прывесці ўступную прамову пана намесніка бургамістра раёна Васілеўскага, з якой ён выступіў перад беларускімі настаўнікамі ў Браславе. Ён гаварыў на ломанай рускай мове і пры гэтым пэўна думаў, што гаворыць на беларускай мове: "Нашы настаўнікі цяпер вымушаны працаваць у цяжкіх умовах, выкліканых не толькі вайной, але і тым, што наша краіна знаходзіцца ў асаблівым нацыянальным і культурным стане. Нашы ворагі кажуць аб беларускай мове: што гэта за мова? Гэта – мова пастухоў! Ваш абавязак як настаўнікаў па прыездзе ў вёску паказаць, што пастухі таксама людзі, што яны таксама могуць стварыць сваю ўласную культуру. З гэтых пастухоў мы павінны зрабіць міністраў. Польскі маршал Юзэф Пілсудскі казаў, што на мяжы (быўшай польска-рускай) ён не бачыць іншага вырашэння пытання сумеснага жыцця, як толькі ў барацьбе асобных нацыянальнасцяў адзін з адным. Параза Польшы ў 1939 годзе з'явілася не толькі вынікам знешняга ўдара, а ў першую чаргу вынікам унутраных маральных супярэчнасцяў". Затым прамоўца казаў аб сабе, што ён паважае кожнага чалавека, не звяртаючы ўвагі на яго нацыянальнасць, і што ніхто ў дадзеным выпадку не можа змяніць ягоных поглядаў, каб маральна падмацаваць свой пункт погляду, выступоўца нагадаў словы рускага паэта Жукоўскага. Далей ён падкрэсліў, што беларускія настаўнікі, якія сёння працуюць для ўсёй краіны, павінны развіваць не толькі ўласную нацыянальную культуру, але паважаць культуру ўсіх народаў нашай краіны. Беларусы павінны адкінуць рэцэпты нацыяналізму, якія ім нехта хоча навязаць. Адным словам, нацыянальнай барацьбы у нас не павінна быць.Усе мы, жыхары гэтай краіны, павінны быць адзіныя і тады будзе парадак. Я думаю, што дастаткова, каб пераканацца, што сёння, як напрыклад у Браславе, большасць служачых адказваюць наведвальнікам-беларусам на польскай або на рускай мове, калі мясцовая радыёстанцыя зусім не вядзе перадач на беларускай мове, а толькі па-руску, па-украінску, па-польску, калі ў каталіцкіх і праваслаўных цэрквах пануюць польская і руская мовы. Такая прамова намесніка бургамістра раёна да беларускіх настаўнікаў сама ўжо прамаўляе за сябе. Беларусаў у Браславе прама тэрарызуюць. Тут гаспадаром з'яўляецца Васілеўскі, ён і цар і бог і ...намеснік бургамістра раёна.

Ад рэдакцыі: калі ваш намеснік бургамістра раёна заяўляе, што ён паважае кожнага чалавека, не звяртаючы ўвагі на яго нацыянальнасць, то атрымліваецца, што ён паважае таксама нашых ворагаў – жыдоў. З гэтым не можа пагадзіцца ні адзін беларус. Не можа пагадзіцца і з тым, што беларус не павінен змагацца з нашымі ворагамі рускімі і палякамі, якія яшчэ не адмовіліся ад сваіх імперыялістычных імкненняў. Змагайцеся за поўную беларусізацыю вашага раёна, дамагайцеся, каб у вашым раёне ва ўстановах ніхто не размаўляў па-польску або па-руску. На вашым баку стаіць такі аўтарытэт як сам генеральны камісар Беларусі гаўляйтэр Кубэ, які не аднойчы заяўляў, што Беларусь для беларусаў, ні рускім ні палякам нечага рабіць на беларускай зямлі.

Лісты 164-165. 11 верасня 1942 года.

Гаспадзіну генеральнаму камісару Беларусі.

Аддзел 11 прапаганды-прэсы. Мінск.

Датычыць: артыкула ў беларускай газеце за 06.09.1942 года пад загалоўкам "Што адбываецца ў Браславе?".

Мною дадзена ўказанне аб праверцы выказаных у артыкуле фактаў. Мая думка: мне не зразумела, як рэдакцыя беларускай газеты магла прыняць такі артыкул і апублікаваць яго ў газеце. Калі ўжо рэдакцыя так зацікаўлена ў беларускіх справах, то ёй патрэбна было б гэты, сумнеўны нават для яе артыкул, накіраваць у гебіткамісарыят г.Глыбокага, як орган адказны за акругу, для праверкі фактаў і вынясення заключэння. Такі крок прымусіў бы нас звярнуць увагу на недапушчальныя абставіны. Гэта абсурд, калі нейкі ўдзельнік настаўніцкіх курсаў піша такога роду артыкул і праз галаву гебіткамісара накіроўвае яго ў беларускую газету, пры тым піша аб такіх рэчах, якія сам не ў стане асэнсаваць, але якія могуць выклікаць далёка ідучыя наступствы. У асабістай перапісцы справы нацыянальнага характару разглядаюцца як сакрэтныя. А ў беларускай „Мінскай газеце» адкрыта заклікаюць да нацыянальнай барацьбы. І гэта ў той час, калі амаль кожную ноч партызаны ўчыняюць падпалы і знішчаюць дзяржаўныя маёнткі. Мне здаецца недапушчальным, каб у дазволенай генеральным камісарам газеце яшчэ больш абвастраўся і так ужо існуючы польскі бандыцкі рух. Калі з боку таго ці іншага жыхара акругі будуць заўважаны дзеянні, якія на ягоную думку не адпавядаюць дзейнічаючым палітычным напрамкам для Беларусі, а па гэтаму яго турбуе гэта ў сэнсе ліквідацыі гэтага непаразумення, то гебіткамісар і з'яўляецца першай інстанцыяй, якая павінна ведаць гэта і толькі яна ў стане зьмяніць становішча. Ці так належала разумець словы, што казаў намеснік бургамістра Браслаўскага раёна на настаўніцкай нарадзе, як іх, відаць, аўтар артыкулу, а тым самым даў повад да такога роду каментарыя рэдакцыі, я не ведаю. Я выклікаў на допыт намесніка бургамістра Браслаўскага раёна і раённага школьнага інспектара. Я прашу даць указанне беларускай газеты надалей не друкаваць карэспандэнцый з гебіткамісарыята г.Глыбокага, перш чым яны ў перакладзе на нямецкую мову не будуць прадстаўлены гебіткамісару. Прашу яшчэ даведацца ў выдавецтве прозвішча аўтара артыкула і паведаміць мне яго. Я не думаю, што рэдакцыя беларускай газеты ў Мінску публікуе ананімны твор.

Гебіткамісар (подпіс) Гахман.

*Матэрыял падрыхтаваны Уладзіславам Ляскоўскім (Шаркоўшчына).*

Друкуецца з выдання «Бацькаўшчына (Германавічы). №6, 2004 г.



*14 верасня спаўняецца 120 гадоў з дня нараджэння Фабіяна Абрантовіча (1884 – 1940), выдатнага беларускага рэлігійнага і грамадскага дзеяча. Два гады жыцця гэтага неардынарнага чалавека звязаны з Браслаўшчынай, а дакладней з Друйскім кляштарам айцоў марыянаў.*

*Прысутнасць і дзейнасць такой асобы ў Друі – гонар для гісторыі мястэчка і ўсёй Браслаўшчыны.*

# ФАБІЯН АБРАНТОВІЧ

*Нарадзіўся 14.09.1884 г. у засценку Вераскоўшчына Навагрудскага павета. Паходзіў з мяшчанскай сям'і беларусаў-католікаў: бацькі – Янка і Юлія (з дому Кашыцаў) Абрантовічы – жыхары Навагрудка. Скончыў Навагрудскае гарадское 3-класнае вучылішча. У красавіку 1902 г. вытрымаў экзамен на званне аптэкарскага вучня пры экзаменацыйнай камісіі Пецярбургскай навучальнай акругі. З восені таго ж года – у Магілёўскай духоўнай каталіцкай семінарыі ў Пецярбургу. Пасля яе заканчэння паступіў у Мітрапалітальную духоўную каталіцкую акадэмію (1906 г.). На 3-м курсе акадэміі (09.09.1909 г.) пасвячоны ў святары. Выкладаў Закон Божы ў пецярбургскіх навучальных установах (Імператарскае вучылішча правазнаўства, Імператарскае камерцыйнае вучылішча, Кадэцкі корпус імператара Аляксандра II, Марыінскі і Паўлаўскі інстытуты). З 09.12.1910 г. – законавучыцель прыватнай мужчынскай гімназіі пры рымска-каталіцкім касцёле Святой Кацярыны ў Пецярбургу. 11.03.1912 г. атрымаў дазвол на выезд з Расійскай імперыі ў Бельгію. Працягваў вучобу ў каталіцкім універсітэце ў г.Лёвен (1912 – 1914 гг.), дзе абараніў доктарскую дысертацыю па філасофіі. У лістах з Лёвена адзначаў не толькі высокі ўзровень ведаў выкладчыкаў і прафесараў каталіцкага ўніверсітэта, але таксама і глыбіню, неардынарнасць навуковых праграм, асабліва па філасофіі: "Чым больш знаходжуся ў Лёвен, тым больш з таго цешуся. І сам дзіўлюся, бо ніколі не быў вялікім аптымістам. А яшчэ хацеў бы застацца тут даўжэй". Пасля вяртання з Бельгіі прыняты на пасаду прафесара духоўнай каталіцкай семінарыі ў Петраградзе (01.09.1914 г.). Выкладаў філасофію, сацыялогію і спевы. Адначасова выконваў абавязкі законавучыцеля ў Петраградскай Канстанцінаўскай жаночай гімназіі пры Імператарскім жаночым інстытуце. Пазней выкладаў Закон Божы ў 12-й Петраградскай гімназіі. З беларускім нацыянальна-рэлігійным рухам звязаны з часоў вучобы ў Пецярбургу. Належаў да культурна-асветнага гуртка беларусаў-клерыкаў. Разам са святаром Л.Хвецькам заснаваў першую нацыянальна-рэлігійную арганізацыю Хрысціянская дэмакратычная злучнасць. Шырока выступаў у беларускіх перыядычных рэлігійных выданнях ("Крыніца", 1917 – 1920 гг., Петраград – Мінск – Вільня; "*Chryścijanskaja Dumka*", 1928 – 1929 гг., Вільня). Адзін з арганізатараў і ўдзельнікаў І-га з'езда беларускіх каталіцкіх святароў (Мінск, 24-25.05.1917 г.), дзе выступіў з рэфератам "Справа прасьветная". Сябра саюза ксяндзоў-беларусаў. Камандзіраваны Адміністратарам Магілёўскай архідыяцэзіі біскупам Э.Ропам у Мінск "для проведения духовных треб местным католикам» (30.04.1918 г.). Адзін з кіраўнікоў Хрысціянскай дэмакратычнай злучнасці ў Мінску. Пры падтрымцы біскупа С.Лазінскага, ініцыятара адкрыцця Мінскай духоўнай каталіцкай семінарыі, абраны яе рэктарам. З верасня 1919 г. – сябра Рады Часовага Беларускага нацыянальнага камітэта ў Мінску. Уваходзіў у склад дэлегацыі беларускіх дзеячаў, якую 19.09.1919 г. прыняў у Мінску Ю.Пілсудскі. Планавалася, што ў Міністэрстве замежных спраў Беларускай Народнай Рэспублікі атрымае пасаду кіраўніка Місіі ў Рыме. У пачатку 20-х гадоў – выкладчык эвакуіраванай у Навагрудак, а пазней у Пінск каталіцкай семінарыі. З 1926 г. – у ордэне айцоў марыянаў у Друі. У 1929 – 1938 гг. узначальваў каталіцкую місію ўсходняга абраду ў Маньчжурыі і Кітаі. Прымаў удзел у пасяджэннях Генеральнай капітулы марыянаў у Рыме. Улетку 1939 г. знаходзіўся ў Польшчы. Напрыканцы верасня таго ж года арыштаваны савецкімі органамі бяспекі, больш за 5 гадоў правёў у вязніцах. Памёр ад катаванняў 02.01.1946 г. у Бутырскай турме (Масква). Месца пахавання невядома.*

**Айцец Фабіян Абрантовіч у Друі, 1926 – 1928 гг.**

Айцец Андрэй Цікота – гэта чалавек быстрага розуму, нязломнае волі, гарачае ахвярнасьці і сьвятасьці, парываючы прапаведнік. Айцец Фабіян Абрантовіч – гэта перадусім глыбіня і шырыня інтэлекту, а так-жа здольны рэлігійны пісьменьнік і нябудзённы красамоўца. Калі Божы правід злучыў іх у Друі разам, дык удзірванелая да гэтага часу друйская ніва зацьвіла.

Айцец Фабіян прынёс у Друю так-жа немалы *"пасаг"*, аб якім ужо ўспаміналася вышэй, а так-жа шмат дарагіх кнігаў пераважна ў беларускай мове.

Двухгадовае перабываньне а.Фабіяна ў друйскім манастыры пакінула па сабе незацёрты сьлед. Айцец Фабіян быў навіцыянтам, гэта значыць кандыдатам на законьніка, усе аднак ведалі, што з ім цяжка было зраўняцца так у веданьні духовага жыцьця, як і ў практыкаваньні яго. Калі Супэрыёр дому і настаўнік навіцыянтаў лічылі навіцыят а.Фабіяна больш за фармальную патрэбу, як за школу духовага жыцьця, дык ён сам думаў і паступаў інакш. Ён сапраўды вёў сябе ўсюды як навіцыянт: супольны скромны пасілак, раньняе ўставаньне (у манастыры ўставалі ў 4 гадзіны раніцы), малітвы, фізычная і ўмысловая праца – вось заняткі кожнага дня а.Фабіяна. Друйскія мяшчане, настаўнікі і ўрадоўцы здалёк абходзілі а.Фабіяна, калі ён ля манастыра замятаў вуліцу, або сек дровы, даношваючы свае працацкія фіялеты. Айцец Фабіян, як і ўсе іншыя законьнікі ў Друі, працавалі фізычна дзеля дзьвёх прычынаў: дзеля здароўя і дзеля апостальства працы. Дзеля здароўя, бо сапраўды было добра зімою на марозе папрацаваць каля дроў, або летам каля сена. Пры тым і людзі маглі пераканацца, што фізычная праца ня ганьбіць чалавека. На Беларусі быў вельмі пашыраны фальшывы ўстыд фізычнае працы: калі хто станавіўся ўрадоўцам, сьвятаром, або нават і гімназістам дык лічыў сябе "вучоным" і да фізычнае працы не дакранаўся. Айцец Фабіян быў ворагам надзьмутае *"вучонасьці"* і фальшывага ўстыду.

Азначаўся а.Фабіян шмат чым: ён страшэнна ня любіў, калі на манастырскіх карыдорах ці ў залях валялася сьмецьце, або некія паперкі. Пры кожнай нагодзе ён сам зьбіраў гэтыя паперкі, даючы тым самым прыклад малодшым дбайлівых адносінаў да чысьціні. З прыроды а.Фабіян ня быў гаварлівы, але калі гаварыў, дык заўсёды з адценнем гумару і сакавітасьці. Яго некаторыя сказы на доўга пераживалі яго. Такія выразы, як *"страшнае праклянцьце"*, *"варона ты"*, *"ты маё дзіцятка"* бытавалі праз доўгія гады ў друйскім манастыры, а *"варона"* дык сталася вельмі дамашняю і ўсе яе ведалі ад малога да старога.

У друйскай гімназіі, якою кіраваў а.Цікота, а.Фабіян вучыў рэлігіі і гісторыі, гаварыў казаньні да моладзі і да вернікаў у друйскім касьцёле, пісаў у беларускія часапісы пад псэўдонімам др.М.А. Вучань а.Фабіяна д-р Яз.Малецкі свае ўражаньні аб ім выказаў у сваім лісьце да ніжэйпадпісанага ў

наступных словах: *"Вучонасьць і рэлігійнасць кс.Абрантовіча была годная падзіву. Яго шырокая філязафічная веда ўзбуждала заўсёды падзіў у слухачоў. Ён умеў прамаўляць да "вучоных" і да простых сялян і работнікаў"* (Ліст з дня 19.01.1953 г.).

Тое, што кажа др.Малецкі, я так-жа магу пацьвердзіць уласным дасьведчаньнем. У той час, калі а.Фабіян быў у друйскім манастыры, я хадзіў у друйскую народную школу. Мы школьнікі кожную нядзелю павінны былі прысутнічаць на т.зв. вучнёўскай Імшы, каторая адпраўлялася для нас і для гімназістаў. Пасьля трыццаці гадоў я яшчэ добра помню адно параўнаньне, якое а.Фабіян ужыў у часе свайго казаньня да вучняў, тлумачачы тое, што чалавек не павінен быць пустым і заносьлівым. Ён казаў:

– Чаму бочка гудзе?

– Бо пустая!

За час свайго побыту ў Друі а.Фабіян напісаў дзьве невялікія, але вельмі цікавыя і глыбокія зьместам брашуры: "Бог" і "Чалавек". Абедзьве яны перш друкаваліся на старонках віленскае "Хрысьціянскае думкі" (у гадох 1928/29), а пасьля выданы былі асобнымі кніжкамі. Наступна ён маніўся апрацаваць у беларускае мове агульную гісторыю Царквы але далейшыя падзеі выбілі яму пяро з рук.

На вялікі жаль а.Фабіян Абрантовіч быў вельмі коратка ў Друі, бо ўсяго два гады. У 1928 г. ён быў паклікаwы Апостальскім Пасадам у Харбін для кіраваньня, або лепш кажучы для арганізаваньня новастворанас там епархіі для каталікаў расейцаў у бізантыйска-славянскім абрадзе. Хто і чаму пастараўся пераканаць папу Пія XI, што а.Фабіян ёсьць неабходным для працы сярод расейцаў на Далёкім Усходзе ў Харбіне, а Друя і беларусы могуць абыйсьціся і без яго, дагэтуль нам ня ведама.

**Матэрыял падрыхтаваны па выданню:**
**Ю.Гарбінскі. Беларускія рэлігійныя дзеячы ХХ ст. Мінск-Мюнхен. 1999.**

*Славутыя землякі*

# Памяці Станіславы Герасімовіч

Сумная вестка прыйшла з Вроцлава. Тут, на 94-м годзе жыцця, пасля цяжкай і працяглай хваробы, памерла Станіслава Іванаўна Герасімовіч – жонка вядомага і любімага пацыентамі доктара, шчырага беларуса Мікалая Іосіфавіча Герасімовіча, які пакінуў незабыўны след у памяці передваеннага і пасляваеннага пакалення жыхароў Германавіч і Шаркоўшчыны. Мікалай Іосіфавіч памёр у 2001 г. і на працягу 60-ці гадоў яго няпростага жыцця побач з ім заставалася Станіслава Іванаўна, чалавек глыбокай любові да беларускага народа і зямлі, хрысціянскіх каштоўнасцей, сям'і і дзяцей, каталіцкай царквы.

Станіслава Іванаўна нарадзілася 1 кастрычніка 1910 г. ў сям'і земляробаў Жвірбляў на Браслаўшчыне. Там, у невялікім паселішчы Навічках, што недалёка ад Друі, сям'я мела невялікі маёнтак, які з цяжкасцю забяспечваў выхаванне дзяцей. На шчасце, адчыненыя ў 1923 г. Друйскі кляштар айцоў марыянаў і прыкляштарная гімназія, што ўзначальваліся вядомым дзеячам Беларускай Хрысціянскай дэмакратыі айцом Андрэем Цікотам, далі Станіславе Іванаўне добрую адукацыю і беларускую свядомасць. Як вядома, Друйская гімназія мела такіх выдатных настаўнікаў і выхаваўцаў як Абрантовіч, Германовіч, Хамёнак і іншыя. Абсальвэнтамі гімназіі і гонарам гэтай каталіцкай вучэльні сталі Віктар Ярмалковіч, Язэп Малецкі, святары Мікола Баговіч, Часлаў Сіповіч і іншыя. Па ўспамінах былой выкладчыцы Друйскай гімназіі Яніны Касінскай дзверы гімназіі былі адчынены для моладзі розных канфесій, а для бедных вясковых дзяцей гэта была адзіная магчымасць атрымаць сярэднюю і далей вышэйшую адукацыю. Кіраўнікі гімназіі працавалі дзеля высакароднай ідэі.

Не маецца дакладных звестак пра жыццёвы лёс Станіславы Іванаўны пасля заканчэння гімназіі, але вядома, што апошнія перадваенныя гады сям'я Жвірбляў пражывала ў Вільні, дзе бацька працаваў у друкарні. Не выключана, што гэты перыяд быў звязаны з ініцыятывай айца Цікоты па стварэнню ў Вільні Беларускай друкарні імя Ф.Скарыны, якая пачала сваю дзейнасць у 1925 годзе пры фінансавай падтрымцы Друйскага кляштара.

У гады Вялікай Айчыннай вайны і нямецкай акупацыі Станіслава Іванаўна звяртаецца да вялізнай гуманістычнай місіі – апекі асірацелых дзяцей. Яна працуе ў сірацінцу на Дзісеншчыне, збірае і ўладкоўвае па сем'ях дзяцей, якія засталіся без нагляду, стараецца забяспечыць сірот адзеннем, харчаваннем праз дзейнасць самадапамогі, збірае ахвяраванні па людзях. Узнікаюць, зразумела, медыцынскія пытанні і такім чынам яна знаёміцца ў Шаркоўшчыне з доктарам Мікалаем Герасімовічам. У 1943 г. ў Глыбоцкім касцёле адбылася шлюбная ўрачыстасць Станіславы Іванаўны і Мікалая Іосіфавіча. Маладая сям'я абасnavалася ў Шаркоўшчыне. Тут у 1944 годзе нарадзілася дачка Ганна.

Аднак вызваленне Дзісеншчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў прынесла Станіславе Іванаўне вялікія непрыемнасці. За публікацыі ў беларускамоўнай прэсе часоў акупацыі па справах асірацелых дзяцей і хрысціянскіх каштоўнасцей яе выклікалі на допыт у райаддзел НКУС, а ў 1945 годзе арыштавалі. Яна перанесла трагічныя месяцы ў следчых ізалятарах, знакамітай "амерыканцы" ў Мінску, шматлікія шматгадзінныя допыты і здзекі. Магчыма, яна не пазбегла б самага страшнага лёсу: вязня ГУЛАГу, але за яе змагаўся верны муж і сябар Мікалай Іосіфавіч. У сваёй веры ў невіноўнасць Станіславы Іванаўны ён дайшоў па інстанцыях да знакамітых маскоўскіх адвакатаў і дабіўся вызвалення жонкі. У 1947 г. Станіслава Іванаўна вярнулася да сям'і. Аднак здароўе і псіхалагічны стан яе былі падарваны. Трэба сказаць, што і стаўленне мясцовых улад да сям'і Герасімовічаў было не самым лепшым. Тым не менш, дзякуючы надзвычай аптымістычнаму характару доктара Герасімовіча, які паспяхова працаваў на ніве аховы здароўя, яны пабудавалі свой дом у Шаркоўшчыне.

Тут нарадзіўся ў 1950 годзе сын Павел, а праз тры гады – дачка Алена. І толькі па настойліваму запрашэнню родных сясцёр з Польшчы ўся сям'я эмігрыравала ў 1957 годзе ў Польшчу, на былыя нямецкія землі. Большую частку жыцця Герасімовічы правялі ў Мілічы, а пасля выхаду на пенсіі жылі ў сваіх дачок у Вроцлаве.

Вельмі далікатнай асобай запомнілася Станіслава Іванаўна ў коле сваіх знаёмых як на Бацькаўшчыне, так і на Вроцлаўшчыне. Гэта быў уважлівы, добразычлівы чалавек, улюбёны ў Беларусь, глыбока ведаючы яе гісторыю і культуру. Вельмі зацікаўлена ставілася Станіслава Іванаўна да літаратурных навінак, сачыла за паэтычнымі і мемуарнымі творамі выхадцаў з Беларусі. У час развітання з пані Станіславай прагучалі словы яе любімага паэта Чэслава Мілаша:

*На маёй радзіме, да якой не вярнуся,*
*Ёсць у лесе возера вялікае,*
*Хмары раскіданыя і цудоўныя*
*Памятаю, часам калі азірнуся.*
*Спачывае ў маім небе тое возера церні.*
*Нахіляюся і бачу там*
*Водблеск майго жыцця ў прыдонні.*

Андрэй Майсяёнак,
прафесар. Гродна

# Выстава, прысвечаная вайне

У верасні ў памяшканні гістарычна-краязнаўчага музея пачала працаваць выстава "У суровыя гады Вялікай Айчыннай", прымеркаваная да 60-годдзя вызвалення Беларусі і Браслаўшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У экспазіцыі прадстаўлены кнігі, прысвечаныя гісторыі вайны на Браслаўшчыне, у тым ліку рэдкія выданні Канады, Літвы, Ізраіля, Польшчы.

Дэманструецца шмат дакументаў – у тым ліку нямецкіх, перыяду акупацыі, партызанскіх, франтавых. Асобныя комплексы матэрыялаў звязаны з такімі ўдзельнікамі вайны як Алег Пракаповіч, былы браслаўскі падпольшчык і партызан, Пётр Касцюкевіч, былы партызанскі разведчык, мастак, паэт, Павел Сырамаха, былы камандзір брыгады імя Жукава, сакратар падпольнага райкома партыі, Фёдар Уцянкоў, былы камандзір палка, які вызваляў Браслаў і г.д.

Увазе чытача прапануем адзін з цікавых дакументаў, што прадстаўлены на выставе. Гэта папярэдні акт абследавання гаспадаркі Браслаўшчыны, складзены акупацыйнымі ўладамі ў ліпені 1941 года – у самым пачатку вайны. Дакумент зберагаецца ў фондах музейнага аб'яднання, куды яго перадаў Ян Рыдзіка з в.Барадзінічы. Выказваем удзячнасць Уладзіміру Кандрусевічу за пераклад з нямецкай мовы.

* * *

*29 ліпеня 1941 г.*

*Папярэдні пералік выяўленых сельскагаспадарчых і дапаможных прадпрыемстваў.*
*Браслаўская акруга з падакругамі: Браслаў, Мёры, Відзы.*
*Акруговы сельгасдарадца: Трапша.*

| Колькасць прадпрыемстваў | Від прадпрыемстваў | Места | Заўвагі |
|---|---|---|---|
| 1 | Млын | Браслаў | Вадзяны млын |
| 1 | Млын | Зарачча | |
| 1 | Млын | Опса | |
| 2 | Млыны | Відзы | |
| 1 | Млын | Богіна | |
| 1 | Млын | Слабодка | |
| 1 | Млын | Друя | |
| 1 | Млын | Лазоўка | |
| 1 | Млын | Багданава | |
| 1 | Млын | Павяцце | |
| 1 | Млын | Мёры | |
| 1 | Млын | Новы Пагост | |
| 1 | Млын | Плятэрова | |
| 1 | Малочны завод | Відзы | |
| 1 | Малочны завод | Каменполле | |
| 1 | Малочны завод | Укля | |
| 1 | Малочны завод | Мёры | |
| 1 | Малочны завод | Друя | |
| 1 | Малочны завод | Опса | |
| 1 | Лесапільны завод | Браслаў | |
| 1 | Лесапільны завод | Мёры | |
| 1 | Лесапільны завод | Плятэрова | |
| 1 | Дубільня | Браслаў | |
| 2 | Дубільня | Друя, Відзы | |
| 10 | Калгасы | Браслаў | Да таго: мотатрактарная станцыя Бяльмонты |
| 34 | Калгасы | Мёры | Да таго: мотатрактарная станцыя ў Ідолце |
| 10 | Калгасы | Відзы | Да таго: мотатрактарная станцыя ў Падзісне (кожная мае 12-15 трактароў і майстэрню) |
| 1 | Электрастанцыя | Відзы | Энергія вады |
| 1 | Фабрыка па вырабу ваты | Відзы | Абутак з воўны і футры |
| 1 | Сельскагаспадарчая школа | Опса | Дзіцячы прытулак |
| 1 | Бойня | Браслаў | |
| 1 | Бойня | Опса | |
| 1 | Бойня | Відзы | |
| 2 | Папяровая фабрыка | Плятэрова | Кардонная фабрыка |

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Пастаўы)